# Голас Радзімы

№ 46 (2136)
16 лістапада 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



На афішах, што запрашалі наведаць выстаўку беларускага мастака Аляксея Кузьміча, была адлюстравана жанчына, загадкавая і прывабная, узнёслая і кранальная. Яе вобраз хвалюе мастака як сімвал жыцця, мацярынства, прыгажосці. Яна над глабальнымі праблемамі і жыццёвымі дробязямі, яна вечная і непераможная, як само жыццё. Мусіць, таму так многа і так ахвотна мастак піша Мадоннаў. На выстаўцы гледачы спыняліся перад Мадоннай Кіеўскай Русі, Мадоннай у разбітым люстэрку і перад Мадоннамі з рукамі працаўніц...

Некалькі гадоў назад Аляксей Кузьміч захапіўся і пісаў партрэты артыстаў тэатра імя Купалы — С. Станюты, Зд. Стомы, Г. Макаравай, Ф. Варанецкага... Гэта работы трошкі нечаканыя, напоўненыя надзвычай важным для разумення мастацкага вобраза ўнутраным рухам. Бурны ўсплёск народнай стыхіі адлюстраваны мастаком у кампазіцыі, прысвечанай Кастусю Каліноўскаму.

На выстаўцы было прадстаўлена ўсё самае значнае з таго, што створана мастаком за апошняе дзесяцігоддзе.

НА ЗДЫМКАХ: мастак Аляксей КУЗЬМІЧ; яго работы «Аплакванне» і «Старасць».

Фота С. КРЫЦКАГА.



72-я ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКА

**Сёмага кастрычніка ў краіне адбылося традыцыйнае святкаванне гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Звычайна ва ўсіх кутках урачыстасці праходзілі па адным традыцыйным раскладзе. Сёлета ж людзі самі вызначалі, як ім лепш арганізаваць свята. У некаторых рэспубліках адмовіліся ад правядзення ваеннага парада, недзе і ад урачыстай дэманстрацыі, а замест гэтага правялі мітынгі, прысвечаныя рэвалюцыйным пераўтварэнням у грамадстве. Так адбылося, напрыклад, у Літве. А вось у Эстоніі ў адрозненне ад леташняга сёлета, наадварот, вярнуліся да традыцыйнай схемы: тут прайшоў і ваенны парад, і дэманстрацыя працоўных. Аналагічна адбывалася святкаванне і ў Беларусі. У Мінску на плошчу імя Леніна выйшлі святочныя калоны дэманстрантаў. А перад тым на ёй адбыўся ваенны парад. Людзі неслі лозунгі і транспаранты ў падтрымку перабудовы, за адраджэнне роднай мовы. Настрой у дэманстрантаў быў прыўзняты: свята ёсць свята. Пасля завяршэння шэсця працоўных горада плошча, праспект Леніна не апусцелі. І тут, і ва ўсіх парках сталіцы свята закончылася масавым народным гуляннем.**




**НА ЗДЫМКУ: у час кастрычніцкай дэманстрацыі ў Мінску.**

ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ СССР

## ЛАЎРЭАТЫ 1989 ГОДА

Напярэдадні ўсенароднага свята — 72-й гадавіны Вялікага Кастрычніка адбылося прысуджэнне Дзяржаўных прэмій СССР 1989 года ў галіне навукі і тэхнікі, дзеячам культуры, мастацтва і архітэктуры. Сярод лаўрэатаў — прадстаўнікі Беларусі.

Дзяржаўных прэмій СССР удастоены: у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры — заслужаны архітэктар Беларускай ССР Васіліса Шыльнікоўская, архітэктары Мікалай Жлоба, Барыс Юрцін, інжынер Аляксандр Самончык і іншыя.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## БЕРАГЧЫ РЭСУРСЫ — БЕРАГЧЫ ПРЫРОДУ

Праблемы рэсурсазберажэння і экалогіі разгледжаны на Усесаюзнай навукова-тэхнічнай канферэнцыі, якая адбылася ў Гомелі. У ёй прынялі ўдзел і вучоныя горада-пабраціма — Чэске-Будзёвіцэ (ЧССР).

Гомель выбраны месцам сустрэчы не выпадкова: апошнім часам навуковыя ўстановы абласнога цэнтра вызначылі дакладны курс на зберажэнне рэсурсаў і паляпшэнне навакольнага асяроддзя. Напрыклад, навінка Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР — капсуляваныя ўгнаенні — дзякуючы «адзенню» да пяцідзесяці працэнтаў павялічваюць ураджайнасць бульбы і буракоў, на трэць зніжаюць у іх утрыманне нітратаў і аказваюць значна меншае ўздзеянне на прыроду.

ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ

## ПРЫЗНАЧАНЫ КАТАЛІЦКІ ЕПІСКАП

Адноўлена пасада апасталічнага кіраўніка Мінскай епархіі рымска-каталіцкай царквы. На гэтую пасаду прызначаны былы настаяцель францысканскага сабора ў Гродне доктар багаслоўя Тадэвуш Кандрусевіч, узведзены папай Іаанам Паўлам II у сан епіскапа. У мясцовым каталіцкім храме адбылося ўшанаванне новага епіскапа і ўрачыстае богаслужэнне. У ім удзельнічалі некалькі тысяч прыхаджан, прадстаўнікі духавенства з Савецкага Саюза і замежных краін. Богаслужэнне, прымеркаванае да гэтай падзеі, прайшло таксама ў каталіцкім храме на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

## ВЯРТАННЕ ХРАМА

Праз дваццаць пяць гадоў зноў прыняў прыхаджан каталіцкі храм у вёсцы Пелеса Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. У час яго асвячэння, прымеркаванага да заканчэння рэстаўрацыйных работ, і богаслужэння, якое затым адбылося, архіепіскап Ю. Сцепанавічус адзначыў, што вяртанне касцёла веруючым — яшчэ адна праява перабудовы, сцвярджэнне новага мыслення на шляху да духоўнага абнаўлення грамадства.

За апошнія два гады ў вобласці па просьбе веруючых адкрыліся 23 новыя каталіцкія прыходы і 13 праваслаўных абшчын. Цяпер іх маецца 175. Свабоду адпраўлення культу маюць паслядоўнікі пратэстанцтва, мусульманства, іншых рэлігійных плыняў. Пры манастыры рускай праваслаўнай царквы зноў адкрылася духоўная семінарыя.

Акрамя касцёла ў Пелесе, абноўлены храмы ў Гродне, Шчучыне, Галынцы, Зарачанцы і іншых населеных пунктах вобласці. Як і даўней, кожнае богаслужэнне тут пачынаецца з перазвону на званіцах храмаў.

ВЫСТАЎКІ

## ЭКСПАЗІЦЫЯ СА СПЕЦСХОВАЎ

Фатаграфіі, рукапісы, перыядычныя выданні і кнігі, сабраныя ў апошні час са спецсховаў дзяржаўных архіваў БССР, склалі экспазіцыю выстаўкі «Без грыфа «сакрэтна». З большасцю гэтых матэрыялаў, прадстаўленых у дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, нашы сучаснікі пазнаёмяцца ўпершыню.

Забытыя факты, забытыя імёны... Больш паўстагоддзя захоўваліся ў тайне дакументы, якія расказваюць аб некаторых эпізодах літаратурнага, грамадскага жыцця ў Беларусі перыяду 1915—1935 гадоў. Без ранейшага ярлыка «нацдэмаўшчына» паказваюцца цяпер тэксты выступленняў на акадэмічнай канферэнцыі 1926 года па беларускаму алфавіту і правапісу, матэрыялы аб дзейнасці выдавецтваў «Загляне сонца і ў наша аконца», «А. Грыневіча», «Нашай Нівы». Гісторыю не выправіш купюрамі, таму, напрыклад, у раздзеле часопіснай і газетнай перыёдыкі дэманструюцца і дэмакратычныя, і рэакцыйныя выданні.

ВЕЧАР-ПАМІНАННЕ

## АДРАДЖЭННЕ АБРАДАЎ

Адрадзіць абрад продкаў, успомніць пра родных і блізкіх, пра людзей, што праславілі нашу зямлю, — такую мэту ставіў Беларускі фонд культуры, які арганізаваў у Мінску вечар-памінанне Дзяды.

Пад скляпеннямі былога касцёла, а цяпер Дома кіно, паміналі продкаў — Францыска Скарыну і Ефрасінню Полацкую, Кастуся Каліноўскага і Янку Купалу... Іх аблічча, напісаныя мастакамі на палотнішчах з матэрыі, глядзелі са сцен. На памінальным стале гарэлі свечкі, стаяла традыцыйная куцця, на льняным ручніку ляжаў бохан чорнага хлеба...

Нялёгка адраджаць забытыя народныя абрады ў сучасным горадзе. Але ўсё-такі гэта адбываецца. І цяпер да каляд, гукання вясны, Купалля, якія ўжо адзначаліся ў Мінску, дабавяцца і старажытныя Дзяды.

АМАТАРСКІЯ ФІЛЬМЫ

## У АБ'ЕКТЫВЕ КІНАКАМЕРЫ

Якія яны, браты нашы меншыя, не ў заапарках і звярынцах, а на ўлонні жывой маці-прыроды? Што пакідаеш ты, чалавек, пасля сябе на рацэ, у полі, у лесе? Ці не засланіў заводскі дым чыстага неба над галовамі нашых дзяцей? На ўсе гэтыя пытанні прапануюць адказаць самадзейным рэжысёрам арганізатары XIV рэспубліканскага агляду аматарскіх кінафільмаў — беларускія таварыствы аховы прыроды, паляўнічых і рыбаловаў.

Агляд пройдзе ў снежні гэтага года. Удзельнічаць у ім запрашаюць аматарскія кінастудыі, клубы і пастаноўшчыкаў-энтузіястаў.

АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

## ХТО ВЯРШЫЎ ПРЫСУД?

У мінулым нумары «Голасу Радзімы» мы змяшчалі інфармацыю пра тое, што ў апошнюю нядзелю кастрычніка ў сумна вядомым урочышчы Курапаты адбыўся мітынг у памяць аб бязвінна загінуўшых у час рэпрэсій 30-х, 40-х і пачатку 50-х гадоў. Гэта трагічная старонка нашай гісторыі працягвае хваляваць людзей, многае з таго, што адбывалася, застаецца невысветленым, нараджаюцца пытанні, версіі, чуткі.

Пасля мітынгу ў газеце «Звязда» было апублікавана інтэрв'ю карэспандэнта БЕЛТА з намеснікам старшыні ўрадавай камісіі, пракурорам БССР Г. Тарнаўскім, у якім ён пастараўся адказаць на многія вострыя пытанні.

Камісія, якую ўзначальвае Г. Тарнаўскі, двойчы вяла следства па «курапацкай» справе. На галоўныя пытанні, якімі былі заклапочаны следства і ўрадавая камісія на першым этапе: Хто пахаваны пад курапацкімі соснамі? Калі і хто праводзіў тут расстрэлы? Колькі чалавек пахавана ў брацкіх магілах? — удалося знайсці аргументаваныя адказы. Яны такія: у лясным масіве Курапаты ў 1937—1941 гадах органамі НКУС праводзіліся масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян. На тэрыторыі ўрочышча ў пахаваннях ляжаць не менш чым 30 тысяч чалавек.

У афіцыйным паведамленні камісіі гаварылася, што ўстаноўлена 40 прозвішчаў былых супрацоўнікаў НКУС, якія прымалі ўдзел у расследаванні спраў «ворагаў народа». Аднак іх саміх знайсці не ўдалося. Дадатковае следства выявіла дзесяткі новых дакументаў, якія паглыбляюць здабытыя раней звесткі, сведчаць, што сярод відавочцаў і непасрэдных удзельнікаў тых падзей — былыя следчыя, вахцёры і канваіры, наглядчыкі турмаў і нават адзін з актыўных выканаўцаў прыгавораў. Прыводзілі ж прыгавор у выкананне ў асноўным работнікі камендатуры — аднаго з падраздзяленняў НКУС БССР.

Было б, аднак, несправядліва, каб адказнасць за цяжкія злачынствы неслі толькі тыя, хто знаходзіўся ў самым нізе велізарнай піраміды. У спісе тых, хто «страляў ва ўпор», імя Бермана павінна стаяць адным з першых, хоць няма доказаў, што ён прывёў у выкананне хоць адзін прыгавор. Але менавіта ён быў галоўным рэжысёрам крывавага спектакля, які з благаславення цэнтра разыграўся ў Беларусі ў 1937 — 1938 гадах.

Калі спускацца з умоўнай піраміды ўніз, то дзесьці ў яе сярэдзіне плячо ў плячо будуць стаяць следчыя. Устаноўлены імёны многіх. Сярод іх прозвішчы Быхоўскага, Волчака, Кунцэвіча, Серышава, Цэйтліна, Міхайлава, Парэмскага, Юдзіна, Караткевіча, Літвінава і іншых.

Г. Тарнаўскі для паўнаты карціны прыводзіць і ніжнюю частку піраміды. Ён цытуе фрагменты запісу допыту аднаго з былых вахцёраў камендатуры НКУС БССР, якія праліваюць святло на многія раней незразумелыя моманты «курапацкай справы». Яны рассейваюць памылковую думку аўтараў некаторых публікацый у беларускім, ды і цэнтральным друку, якія запэўніваюць, што прысутнасць у эксгуміраваных магілах рэшткаў брытваў і фарфоравых кубкаў, партаманетаў і драўляных лыжак — яўны доказ таго, што пасля арышту, мінаючы турмы, следства і суд, людзей везлі прама ў Курапаты.

Мы ведаем цяпер, што былі і турэмныя камеры, і следства, і прыгаворы. Іншая размова — як фабрыкаваліся справы. Адказ на гэтыя пытанні ўжо дадзены — нядаўняй пастановай Вярхоўнага Савета СССР рэабілітаваны ўсе, хто прайшоў праз жорны сляпой і жорсткай машыны несудовых органаў.

Як ні па-кашчунску сёння гэта гучыць, але мы павінны быць удзячныя таму высокапастаўленаму кату, хто даў каманду адпраўляць на пакаранне смерцю і асабістыя рэчы. «Расстраляныя» і пахаваныя разам са сваімі гаспадарамі, яны, нават не назваўшы імені, многае могуць расказаць аб сваім былым уладальніку і аб часе, у якім яму суджана было жыць.

Трывожна прагучала пытанне карэспандэнта і пра тое, што не ўдалося адкрыць ніводнага імені з дзесяткаў тысяч ахвяр.

— Паверце: нам няма чаго ўтойваць, — адказаў Г. Тарнаўскі, — мы зрабілі максімум магчымага, каб вярнуць ахвярам іх імёны. На вялікі жаль, даведаўшыся пра тысячы прозвішчаў бязвінна рэпрэсіраваных, прасачыўшы крок за крокам іх горкі і трагічны лёс, мы не можам назваць ніводнага канкрэтнага імя. І як гэта ні здасца камусьці дзіўным, не маем ні маральнага, ні юрыдычнага права сцвярджаць, што шматлікія ахвяры рэпрэсій, чый «прыгавор прыведзены ў выкананне ў Мінску», пахаваны пад курапацкімі соснамі.

Нам не ўдалося адшукаць у архівах ніводнага спіса адпраўленых на расстрел у Курапаты, ніводнага дакумента ў рэчах пакараных. Пошук у архівах дакументаў, у якіх былі б зафіксаваны месцы расстрэлаў, прозвішчы прыняўшых тут смерць людзей, выніку пакуль не даў. Застаецца верыць сведкам, якія сцвярджаюць, што такога ўліку органы НКУС не вялі. Але жыццё працягваецца, і хто ведае, якія вялікія ўчарашнія тайны яно адкрые заўтра.

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# ПЛАН, РЫНАК І САЦЫЯЛІСТЫЧНЫЯ ІДЭАЛЫ

У ЗАХОДНІМ друку ўсё часцей раздаюцца галасы, пярэдка проста злосныя, аб тым, што свет сацыялізму робіць яўную ўступку рынку за кошт сацыяльна-эканамічных мэт свайго развіцця. Наколькі апраўданы такія меркаванні?

Шчыра кажучы, праблему суадносін плана і рынку ў друку нашых краін можна лічыць адной з самых папулярных тэм на працягу дваццаці гадоў. Аднак у апошні час «рыначнікі» яўна атрымліваюць верх. Тлумачыцца гэта проста. Традыцыйная мадэль кіравання сацыялістычнай эканомікай, якая разглядае дырэктыўныя метады ўздзеяння на яе як асноўныя, выявіла сваю недзеяздольнасць. Наадварот, з усёй відавочнасцю выявіўся «вакуум» канкурэнтных пачаткаў, якія базіруюцца на разнастайнасці форм уласнасці, прадпрымальніцкіх стымулаў, рыначнай самарэгуляцыі. Таму часам нягледзячы на жорсткае супрацііўленне «фундаменталістаў», гаспадарчая практыка многіх сацыялістычных краін (НРБ, ВНР, КНР, ПНР, СССР і інш.) пераарыентавалася на шматсектарную мадэль народнай гаспадаркі з больш ці менш адзінымі прынцыпамі гаспадарання ў дзяржаўнай, кааператыўнай, прыватнай і «змешанай» зонах. Актыўна рэканструюцца нацыянальныя рынкі працоўных і крэдытных рэсурсаў, капіталу, каштоўных папер, сродкаў вытворчасці.

**Усё гэта зусім не сведчанне адмовы ад сацыялістычных мэт развіцця. Наадварот, можна гаварыць пра глыбокія жыццёвыя рэсурсы грамадскай сістэмы, здольнай да ўнутранай самарэгуляцыі, інтэнсіўнага абнаўлення ўсіх сацыяльных інстытутаў. Гэта, безумоўна, сацыялізм — з улікам, вядома, таго, што нашы ўяўленні аб ім істотна эвалюцыяніравалі за апошні час. Напрыклад, многія савецкія эканамісты бачаць крытэрыі сацыялістычнасці эканамічных адносін у дзвюх абавязкова неабходных з'явах. Па-першае, накіраванасці вытворчасці на рост дабрабыту і свабоднага ўсебаковага развіцця ўсіх членаў грамадства. Па-другое, нацэленасці гаспадарчых мерапрыемстваў на безумоўны тэхнічны і тэхніка-эканамічны прагрэс. Прасцей кажучы, сацыялізм — гэта высокія сацыяльныя, эканамічныя і прававыя гарантыі працоўных плюс усё, што садзейнічае росту прадукцыйнасці працы. І, значыць, «мінус» жорстка цэнтралізаванае кіраванне эканомікай і грамадскім жыццём, сетка нерэнтабельных прадпрыемстваў на шыі ў дзяржавы.**

Прадбачу рэпліку апанента: «У такім разе ці не больш сацыялістычная за многія краіны, скажам, Швецыя, якая традыцыйна адносіцца да сацыялістычнай садружнасці?» Зусім слушнае, заўважу, пытанне. І менавіта з пазіцый прызнання безумоўных сацыяльна-эканамічных дасягненняў цэлага шэрагу капіталістычных краін мае сэнс вярнуцца да зыходнай антытэзы «план—рынак».

Зрэшты, ці існуе антытэза? Эканамічная тэорыя і практыка ў нашай краіне (хаця апошняя тут робіць толькі першыя крокі) аддае перавагу канцэпцыі дыялектычнага адзінства планавых і таварна-грашовых заканамернасцей развіцця эканомікі. Прадуктам такой філасофіі стала **ідэя планаемага рынку.**

Пра што канкрэтна ідзе гутарка? Ва ўмовах дасягнутага ўзроўню канцэнтрацыі вытворчасці, яго высокай тэхнічнай аснашчанасці, глыбокіх міжгаліновых сувязей і іх прамога выніку — абагулення вытворчасці развіваць на самарэгулюючыя ўласцівасці рынку — і толькі на іх — не больш, чым даніна рамантызму. Зразумела, сёння рынку трэба дапамагаць. У першую чаргу праз сістэму гібкіх ускосных рэгулятараў.

Гэта, перш за ўсё, падаткі на калектыўныя і індывідуальныя даходы. «Клавіятура» тут вельмі багатая — фіскальныя скідкі для экспарцёраў і інвестараў у дэпрэсіўныя галіны і раёны краіны, падаткавы прэсінг для «перагрэтых» зон гаспадаркі, зняцце падаткаў у зонах сумеснага прадпрымальніцтва, вар'іраванне федэральнымі і мясцовымі падаткамі, павышэнне адказнасці за ўтойванне даходаў ад падаткаабкладання і інш.

Гэта і палітыка камерцыйна выгаднага, недырэктыўнага дзяржаўнага заказу, разумная працэнтная стратэгія цэнтральнага банка краіны. Для сацыялістычных дзяржаў з небагатым унутраным рынкам сродкаў вытворчасці крайне прывабнымі будуць стымулы ў забеспячэнні вытворчымі рэсурсамі, забеспячэнні памяшканнямі, змяненне ставак арэнднай і рэнтнай платы.

Ці азначае сказанае, што «традыцыйныя», прамыя метады ўздзеяння на эканамічнае жыццё здаюцца ў архіў? Ні ў якім разе. Іншая справа, што яны становяцца больш выбіральнымі. Многія эканамісты лічаць, што цэнтр павінен сканцэнтраваць свае планавыя, арганізацыйныя намаганні і інвестыцыйныя рэсурсы на стратэгічных напрамках гаспадарчай дзейнасці — сацыяльнай палітыцы, фінансах, фундаментальных навуковых даследаваннях. Таксама, як і не пакідаць «поля бою» — не пазбягаць канкурэнцыі з кааператыўнымі, індывідуальнымі і змешанымі формамі ўласнасці ў капітала- і рэсурсаёмістых галінах, што патрабуюць высокага ўзроўню іх канцэнтрацыі,— машынабудаванні, хі[illegible]нергетыцы і г. д.

Наадварот, маючы на ўвазе перш за ўсё вопыт развітых краін, у некаторыя сферы эканомікі звышгігантаў дзяржсектара дапускаць не варта. Ці можна, напрыклад, ігнараваць тую акалічнасць, што асноўным пастаўшчыком на су[illegible]ны рынак прадуктаў харчавання з[illegible]ляюцца фермерскія гаспадаркі ЗША, Канады, Францыі, Аўстраліі?

Усё больш рэалізм праяўляюць у сацыялістычных краінах у адносінах да навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ. І не выпадкова. Не будзе лішнім нагадаць, што 40 працэнтаў валавога нацыянальнага прадукту ЗША выпрацоўваецца на дробных прадпрыемствах. Што чатыры пятыя тэхнічных навінак на Захадзе даюць вучоныя і інжынеры — «індывідуалы» і дробныя фірмы. Што, нарэшце, аптымальная колькасць поўнасцю аўтаномнага — аж да правоў уласніка — навуковага калектыву складае, па экспертных ацэнках, 8—10 чалавек. Факты — упартая рэч.

Што ж тычыцца трэцяй зоны эканомікі, дзе перавага дробнакааператыўнай і індывідуальнай форм уласнасці відавочная,— сферы паслуг, то тут ёсць чаму павучыцца і аднаму ў аднаго. Напрыклад, багатыя традыцыі развіцця «малой эканомікі» мае ГДР. Дзве трэці ўсяго аб'ёму паслуг у гэтай краіне прадастаўляецца за межамі дзяржаўнага сектара. З пачатку 80-х гадоў малыя гаспадарчыя формы атрымліваюць шырокае распаўсюджанне ў ВНР і КНР. Верагодна, і 10 працэнтаў аб'ёму платных паслуг для насельніцтва па лініі кааперацыі і «індывідуалаў» у СССР можна лічыць прагрэсам у параўнанні з яшчэ нядаўнім манапалізмам дзяржаўнай формы ўласнасці.

Зразумела, дэмаркацыйная лінія паміж сектарамі эканомікі павінна быць вынікам не прамой, дырэктыўнай «раздачы» ўласнасці, а самога рынку, сумленнага спаборніцтва прадпрыемстваў розных тыпаў.

Як відаць, мы збаўляемся ад прымітыўных поглядаў на сацыялізм як грамадства «роўнасці ў галечы». Ягоператварэнне ў грамадства высокіх сацыяльна-эканамічных гарантый і дынамічнага развіцця рыначнай эканомікі — «сацыялізм няроўнасці ў багацці» — ужо пачалося. Іншая справа, ці захочуць убачыць відавочнае нашы апаненты.

**Алег АСІПЕНКА,**
**кандыдат эканамічных навук.**

БЫЛЫЯ ВЯЗНІ НАВЕДАЛІ ГОРКІЯ МЯСЦІНЫ СВАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

# ПЯКЕЛЬНЫМІ КРУГАМІ ПАМЯЦІ



**Пякельныя кругі... І другі раз, па ўжо ахаладзелых і паўзарослых, хадзіць па іх жахліва. Былыя малалетнія вязні фашысцкіх канцлагераў пазнавалі свае баракі, знаходзілі нары. Недзе побач былі магілы родных, аднавяскоўцаў, у карэннях дрэў і травы — попел аднагодкаў...**

**Яны цудам засталіся ў жывых. І як было не ўскласці кветкі на заглухлыя крокі ўласнага лёсу.**

**Дзякуючы ініцыятыве [illegible]ецкага дзіцячага фонду імя У. І. [illegible]ніна, рэспубліканскага Савета «Дзеці вайны», вялікая група былых вязняў з усіх абласцей Беларусі наведала сёлета ў Польшчы многія горкія мясціны свайго дзяцінства. Наш маршрут нагадваў вялізнае кола па ўсёй Польшчы: Варшава, Лодзь, Кракаў з заездам у Асвенцім, Люблін з падарожжам па Майданаку. Прапаную некалькі імгненняў, зафіксаваных на фотастужцы падчас нядаўняга наведання ПНР.**

**НА ЗДЫМКАХ: за калючым дротам Асвенціма; Кракаў. На ўспамін пра Алеся Гаруна; група былых вязняў каля помніка Адаму Міцкевічу ў Кракаве.**

**Сяргей ПАНІЗНІК.**
**Фота аўтара.**





ПРАЧЫТАЎШЫ Ў ВАШАЙ ГАЗЕЦЕ...

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА МОВУ

Паважаная рэдакцыя!

Пастаянна купляю «Голас Радзімы». Некалькі выданняў мне асабліва спадабаліся. Але ў № 38 ад 21 верасня ў нататцы «Чаму не зарэгістраваны статут і праграма БНФ» вы толькі крытыкуеце гэты статут. Мой погляд такі: трэба было спачатку надрукаваць статут, а потым размову весці пра тое, што не ўзгадняецца з Канстытуцыяй БССР. Ваша газета надрукавала статут Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Дык чаму яна не хоча надрукаваць статут БНФ «Адраджэнне»? Таму і прыходзіцца карыстацца несанкцыянаванымі выданнямі. А што датычыць «мерапрыемстваў па развіццю беларуска-рускага двухмоўя», то я бачу ў гэтым не што іншае, як спробу зрабіць беларускую мову толькі этнаграфічнай мовай. Таму што пры двухмоўнасці ўсё справаводства вядзецца па-руску, таму і на прадпрыемстве трэба будзе размаўляць па-руску. А беларуская мова зноў застанецца другой. І толькі дзяржаўная беларуская мова стане блізкай і сваёй для кожнага жыхара Беларусі. Руская ж мова павінна існаваць толькі ў зносінах паміж саюзнымі рэспублікамі. Таму я за тое, каб беларуская мова ў БССР была дзяржаўнай і ўсё справаводства і навучанне вялося па-беларуску.

А газеце жадаю плённай працы і рэальнага выяўлення падзей.

**З павагай Анатоль ЯШЧУК.**
г. Брэст.

**Сёлета ў «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы» выйдзе кніжка гісторыка-публіцыстычных нарысаў Мар'яна ВІЖА «Чары даўніны». Чытача чакае цікавае падарожжа па беларускіх мястэчках, некаторыя з якіх у наш час сталі гарадамі — раённымі цэнтрамі, іншыя ж — вёскамі. Сёння друкуем адзін з нарысаў, змешчаных у кніжцы.**

## РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫДАННЯ

# ГАРАДОК МАЙСТРОЎ

Чарговае паселішча, куды ёсць намер завітаць, — Ракаў. Хай не бянтэжыць нікога, што гэты былы горад, затым мястэчка зараз сціпла завецца вёскай суседняга з Мінскам Валожынскага раёна.

З Мінска да Ракава імчаць у паўночна-заходнім напрамку хуткаснай магістраллю ўсяго з паўгадзіны. Каб спыняцца непасрэдна ля вёсак, рэйсавы аўтобус час ад часу з'язджае з сучаснай аўтастрады на стары Ракаўскі тракт. І тады замільгаюць паабапал стрымана-лірычныя, знешне някідкія, тыпова беларускія пейзажы. Адзін прыгажэйшы за другога: ахайныя, быццам з якой казкі, вясковыя дамкі, між пакатымі, невысокімі пагоркамі — чашы, да берагоў поўныя аквамарынавай смугой, прывольныя гоні палёў, сінія хваёвыя далі на небакраі, а бліжэй, за ланцужком засцерагальных слупкоў паабапал шашы, — маўкліва-засяроджаныя, адзінокія сосны на ўзлесках.

Пакуль едзем, у нас ёсць час зазірнуць у не напісаную пакуль што кнігу мінуўшчыны Ракава.

...Знойдзеныя ў межах Ракава на берагах хуткаплыннай Ісляча (басейн Нёмана) помнікі каменнага веку, як і вакольныя, зробленыя людзьмі насыпы — курганы, сведчаць, што зямля гэта абжыта з глыбокай старажытнасці. Здавён тут спалучалі паляванне, рыбалоўства, жывёлагадоўлю з разнастайнымі рамесніцкімі заняткамі, з гандлем. Існуе меркаванне, што ў эпоху язычніцтва менавіта ў гэтых краях пралягаў адзін з важнейшых напрамкаў ажыўленага гандлёвага шляху, які злучаў водныя сістэмы (першыя, створаныя самой прыродай дарогі нашай планеты — рэкі) Дняпра і Нёмана. Такі погляд, з аднаго боку, грунтуецца на выніках археалагічных раскопак, з другога — на этымалогіі назваў некаторых рэчак рэгіёна: Свіслач, Ісляч намінальна азначаюць «дарога, шлях з Віслы». Акрамя таго, побач з Ракавам раней знаходзіўся фальварак Паморшчына, таму не выключана верагоднасць таго, што прылеглыя паселішчы за некалькі стагоддзяў да новай эры маглі заснаваць паморскія плямёны, выхадцы з польскага Памор'я.

Дакументы пачынаюць згадваць пра Ракаў толькі з XV стагоддзя. Цікава, што з самым, бадай, першым упамінаннем мы сустракаемся ў... «Спісе навучэнцаў Кракаўскага універсітэта...», дзе пад 1442 годам (!) названы і хлопчык-падлетак, ракаўскі ўраджэнец. Ракаў належаў тады вялікім князям літоўскім, у 1465 годзе Казімір IV (1440—1492) падараваў яго аднаму з князёў Кежгайлаў. Праз стагоддзе іх род згасае і Ракаў робіцца ўласнасцю магната Яна Завішы. Завішы валодалі ім да пачатку XVII стагоддзя, затым горад атрымаў у пасаг віцебскі ваявода Шымон-Самуэль Сангушка, які назваў маёнтак графствам, узяў сабе тытул «графа на Ракаве». Пры Сангушках Ракаў — горад, цэнтр графства, у тутэйшым замку адбываліся пасяджэнні падкаморскіх і павятовых (мясцовых) судоў, працавалі друкарня і шпіталь, заснаваны манахамі-баніфатарамі.

Насельніцтва феадальнага Ракава, як і іншых прыватнаўласніцкіх (некаралеўскіх) гарадоў Беларусі, было разнашэрсным. Сярэднія, самыя шматлікія пласты, называліся мяшчанамі. Гэта купцы, розныя гандляры — «госці», «перакупні», раменнікі ўсіх спецыяльнасцей (паводле каралеўскай граматы 1701 года, горад атрымаў права на 2 кірмашы штогод). Прывілеяванае становішча займалі феадалы — паны, царкоўнікі, шляхціцы— чыноўнікі адміністрацыі ўладара.

Аб побыце ракаўскіх гараджан сярэдневяковай пары захаваліся вельмі скупыя звесткі. Возьмем, напрыклад, запіскі падарожнікаў. Аўтар «Дзённіка падарожжа ў Масковію» (1698—1699 гады), саккратар пасольства Свяшчэннай Рымскай імперыі Іаган Георг Корб з захапленнем апісваў беларускія корчмы, якія мясцовае насельніцтва звала «кругамі». У прыватнасці, дыпламату спадабалася ракаўская карчма, дзе ён спыняўся на начлег.

У канцы XVIII стагоддзя Ракаў — горад і маёнтак —трапляе да магнатаў Агінскіх. Адзін з іх — «падскарбі вялікі літоўскі» (па сучасных мерках — міністр фінансаў) Міхал-Клеафас (1765—1833) цяпер больш вядомы як кампазітар, аўтар выдатнага ля-мінорнага паланеза «Развітанне з радзімай», ці «Паланеза Агінскага». Ён быў дыпламатам высокага рангу, радыкальным палітычным дзеячам, прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. На свае сродкі патрыёт узброіў конны [illegible]трад у паўтары тысячы ча[illegible], які сам і ўзначаліў. Атр[illegible] ваяваў непадалёку ад Ракава. Паўстанцы захапілі мястэчкі Валожын і Вішнева.

А вось яшчэ адно [illegible], непасрэдна звязанае [illegible]кавам, Міхаіл Грушвіцкі (1828—1904) — з кагорты тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай нацыянальнай музыкі. Вядомы падкрэслена дэмакратычны характар творчасці кампазітара — музыка да «Дзядоў» А. Міцкевіча, да «Вясковага лірніка» У. Сыракомлі (Кандратовіча). Памёр Грушвіцкі ў Ракаве, дзе і пахаваны. На сціплым помніку выбілі ноты і надпіс — радкі Сыракомлі: «Тут лірнік вясковы спачыў».

Але што ж адбылося з ракаўскім маёнткам пасля далучэння нашага краю да Расіі?

З «Роспісу канцылярыі генерал-пракурора аб пажалаваных сялянах Мінскай губерні...» вынікае, што 2 верасня 1793 года Кацярына II падаравала «генерал-аншэфу... Салтыкову з секвестраваных (адабраных. — **М. В.**) у падскарбія літоўскага Міхайлы Агінскага... мястэчка Ракаў... з вёскамі», усяго 964 душы (прыгонных) мужчынскага полу. Салтыкоў не прыжыўся на Беларусі, неўзабаве прадаў Ракаў мясцовым памешчыкам. Розныя гаспадарчыя дакументы сведчаць, што тут ужо тады сталі ўводзіць перадавы севазварот з травасеяннем па азіміне, добры прыбытак памешчыкам давалі бровар, вадзяныя млын і лесапільня на Ісляча, а для прыгонных гэтыя прадпрыемствы азначалі новыя павіннасці.

У мінулым стагоддзі пазнаёміліся з Ракаўшчынай і рускія рэвалюцыянеры - дзекабрысты. Зімой 1821—1822 гадоў побач з Ракавам, у маёнтку Выганічы Фелікса Вайдзевіча, жыў драгунскі паручнік, паэт, будучы дзеяч нелегальнага Паўночнага таварыства Аляксандр Бястужаў (Марлінскі). Ён пасябраваў з сям'ёй Вайдзевічаў, у малодшую дачку гаспадара афіцэр (з ягоных слоў) «быў закаханы да немагчымасці». Сёння адна з ракаўскіх вуліц носіць слаўнае імя Бястужава, а ў Выганічах устаноўлены мемарыяльны знак.

Калі пра людзей славутых, што даўней звязалі свой лёс з Ракаўшчынай, пэўныя звесткі захаваліся, дык пра рамеснікаў — слынных тутэйшых майстроў — архівы не гавораць амаль нічога. Таму даводзіцца літаральна па кроплях шукаць адпаведны матэрыял па старых выданнях, даведніках, нешматлікіх спецыяльных навуковых даследаваннях. Беларускі краязнавец і пісьменнік Аляксандр Ельскі (1834—1916) у «Геаграфічным слоўніку каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх» адзначаў, што ў Ракаве робяць малатарні, веялкі (арфы), млыны, сячкарні. «Вырабы, — пісаў ён, — маюць попыт не толькі ў наваколлі, але і разыходзяцца да Пскоўскай і Пецярбургскай губерняў. Грашовы абарот штогод дасягае 40 тысяч рублёў. Пачатак вытворчасці датуюць 1843 годам». Вось калі, аказваецца, на ўвесь голас загаварылі пра ракаўскіх майстроў.

Акрамя саматужнага сельскагаспадарчага машынабудавання, у Ракаве атрымала прыкметнае развіццё самая, бадай, старадаўняя рамесніцкая прафесія — ганчарства. Традыцыі тутэйшага ганчарства каранямі выходзяць з глыбіні стагоддзяў, калі посуд у кожнай беларускай хаце быў у асноўным гліняны: гарачыя стравы гатавалі ў печы ў гліняных гаршках, у гліняных формах шмат дзе пяклі хлеб, штодня карысталіся глінянымі міскамі, жбанкамі, гарлачамі-малочнікамі, слоікамі, люлькамі-піпкамі, а дзеці гулялі простымі і таннымі глінянымі цацкамі (пеўнямі-свістулькамі, лялькамі-«паненкамі»). Каля Ракава залягалі радовішчы выдатнай гліны, з якой можна было ляпіць самыя складаныя, тонкія па пластыцы рэчы. Зразумела, мастацкая лепка абавязкова вымагала ад мясцовых ганчароў пастаянна ўдасканальваць вытворчасць. І яны з поспехам спраўляліся з гэтым.

Немалую ролю ў пашырэнні тут разнастайных рамёстваў адыгрывала і тая істотнейшая акалічнасць, што ракаўскіх жыхароў раней проста душыла малазямелле. І каб неяк выжыць, людзі браліся за саматужную вытворчасць. Зазірнём у «Звесткі аб памешчыцкіх маёнтках...» Мінскай губерні, сабраныя напярэдадні скасавання прыгону.

Ракавам звалася тады мястэчка — цэнтр валасці Мінскага павета і вакольны маёнтак, а недалёка размяшчаўся маёнтак Стары Ракаў, што належаў княгіні Любяцкой. «Лічба душ прыгонных людзей» у Ракаве пераваліла за тысячу, яны складалі 176 двароў, з якіх 12 запісаны ў дакументах майстравымі (!). Сенажацяў у сялян не было, а ворнай зямлі «прыпадала на мужчынскую душу» толькі па 4 дзесяціны, але і за гэты жабрацкі надзел прыгонныя «паншчызны з двара адраблялі па 156 дзён мужчынскіх і 156 жаночых». Чытаем далей: «Жыхары мястэчка Ракава ўтвараюць 128 двароў, якія плоцяць аброку ад 6 да 13 рублёў срэбрам».

Пасля задушэння паўстання 1863 года, якое знайшло прыхільнікаў і ў ракаўскім рэгіёне, русіфікатарская палітыка царызму на Беларусі ўзмацнілася, ішло прымусовае ператварэнне беларусаў-католікаў у праваслаўных. Так, 8 лютага 1869 года мінскі рымска-каталіцкі епархіяльны біскуп Вайткевіч звярнуўся да свайго праваслаўнага калегі — «Яго Прэасвяшчэнства пана Мінскага і Бабруйскага Архірэя, Кавалера Аляксандра». У дакуменце (ён захаваўся ў архіве) паведамлялася, што «сельскага абывацеля Мінскага павета мястэчка Ракава Людзвіга... Янчэўскага» з чатырма дарослымі сынамі ракаўскі праваслаўны благачынны пры дапамозе валаснога праўлення змушае прыняць праваслаўе, пагражае, што за адмову з усіх Янчэўскіх «будуць спаганяць штрафы (да тае пары), пакуль будзе чым плаціць, а пасля яго (разам) з сынамі сашлюць у ссылку».

Дакладныя статыстычныя звесткі пра Ракаў і яго наваколле ёсць у справаздачы мясцовага валаснога старшыны Вайніловіча за 1881 год. Тады на Ракаўшчыне налічвалася 24 маёнткі, а ў 54 вёсках і мястэчку жыло да 7 тысяч чалавек. І хоць старшына запэўніваў губернатара «шаноўным рапартам», што ў даверанай яму Ракаўскай валасці «ўсё ідзе добра», на справе ж было далёка не так. Паводле гэтай самай справаздачы мы падлічылі, што чатыры з кожных пяці сем'яў валасці — беднякі і малазямельныя батракі, а навучэнцы складалі ўсяго тры працэнты насельніцтва.

Мястэчка ў тыя часы зусім не з'яўлялася глухім закуткам: 35 вёрст да губернскага Мінска. «329 двароў,.. жыхароў — 1 968, дзве праваслаўныя царквы, адзін ка[illegible]л і адна капліца, адна сі[illegible]а і дзве яўрэйскія рэлігійн[illegible] школы, два млыны, заводаў няма». Праз Ракаў ваенна-камунікацыйныя тракты беглі з Мінска ў Віленскую губерню, у мястэчка Койданава (цяпер Дзяржынск) праз Івянец-Ру[illegible]вічы, і гандлёвая дарога мястэчка Стоўбцы, дзе ў Новым Свержані шумеў порт на Нёмане, а людзі з самай раніцы завіхаліся ля вялікіх купецкіх складаў. У пачатку нашага стагоддзя ў мястэчку жыло амаль 6 тысяч чалавек, працавалі прыватная аптэка, 5 ніжэйшых навучальных устаноў, сярдзіта пыхкаў паравік гарбарнага заводзіка, спорна круцілася вадзяное кола памешчыцкага млына на Ісляча.

Раслі на вачах культурныя запатрабаванні местачкоўцаў. Толькі гэтым можна растлумачыць жаданне кнігарош стала асталявацца ў Ракаве (зберагліся архіўныя справы «Аб дазволе селяніну Франкоўскаму гандляваць кнігамі і карцінамі ў мястэчку Ракаве» і «Аб дазволе мяшчанцы Старобіна(й) адкрыць кніжную краму ў Ракаве»). Напярэдадні першай сусветнай вайны, у час новага рэвалюцыйнага ўздыму, жыхары мястэчка пазнаёміліся і з прафесійным беларускім тэатрам. У нядзелю 22 красавіка 1912 года тут адбылася беларуская вечарынка. З поспехам прайшло некалькі папулярных спектакляў, частку збору ахвяравалі галодным. Можа паказацца, што з пункту гледжання сённяшняга дня напаўдабрачынная вечарынка ў ціхім мястэчку — падзея, наўрад ці вартая пільнай даследчыцкай увагі. Але ў перыяд, калі наш народ у жудасных умовах нацыянальнага ўціску і жорсткага сацыяльнага прыгнёту адваёўваў сабе права «людзьмі звацца», кожны крок, накіраваны да абуджэння нацыянальнай самасвядомасці, атрымліваў пэўны грамадскі рэзананс. І ўжо праз тыдзень «Наша Ніва» аператыўна паведаміла пра ракаўскую вечарынку чытачам усяго беларускага краю.

А што ж ракаўскія майстры?

Далейшы іх лёс складаўся не зусім гладка, хоць лепшыя ўмельцы па заслугах карысталіся славай і прызнаннем. Пра іх мы працягнем гаворку крыху пазней, зблізку ўбачыўшы ў Ракаве мясцовыя рамесніцкія вырабы.

...Дарогай час ляціць непрыкметна, а калі чалавек чым-небудзь заняты — тым больш. Мы вось-вось апынёмся на вулачках гэтага былога беларускага мястэчка, а цяпер якраз перасеклі нічым, на жаль, не пазначаны сёння рубеж. З нашай моладзі ўжо мала хто, пэўна, ведае, што менавіта тут у міжваенны перыяд (1921—1939 гады) сцяной пралягала дзяржаўная граніца паміж СССР і Польшчай. Ракаў тады, як і ўся Заходняя Беларусь, быў надоўга адрэзаны ад сваіх кроўных братоў-беларусаў неадольнай мяжой, прыкметамі якой у прыкардоннай паласе сталі будкі з вартавымі, паласатыя шлагбаумы на дарогах, што вечна віселі апушчанымі. Стары шумны і бойкі Ракаўскі тракт, які здаўна злучаў наша мястэчка з Мінскам і даў нават назвы гарадской вуліцы, заставе і цэламу прадмесцю Мінска, знямела заціх, абязлюдзеў, год ад года зарастаў травой і кустоўем. Паблізу Ракава з прыдарожных пагоркаў на мёртвы тракт з-пад жалезабетонных шапак варожа касавурыліся чорныя амбразуры дзотаў. Дзе-нідзе яны засталіся і зараз (на шчасце, ужо толькі як сумны напамін).

Збочыўшы з прамой, як страла, магістралі, трапляем на звілістую, надзвычай прывабную вулачку, агульны выгляд якой не выклікае сумненняў: мы зноў стрэліся з былым беларускім мястэчкам. Леваруч, за каменнай агароджай старых ракаўскіх могілак з традыцыйнай брамай, высіцца снежнабелая капліца. Трохі далей, у цэнтры паселішча, увагу кожнага несумненна прыцягне велічная аднакупальная Праабражэнская царква — помнік канца XVIII стагоддзя, дзе, як і ў капліцы, і сёння правяцца службы. Колькі шлюбаў за 200 гадоў тут адбылося, колькі нованароджаных ахрышчана! Асаблівую цікавасць выклікае надбрамная царкоўная званіца. Мемарыяльны надпіс сведчыць, што збудавана яна на сродкі, добраахвотна ахвяраваныя ракаўскімі жыхарамі праваслаўнага веравызнання ў гонар 25-й гадавіны скасавання прыгону. Адзначым, што на Беларусі цяпер налічваецца толькі некалькі падобных гістарычных аналагаў. Званіца выдатна захавалася. Варта кінуць вокам на чатыры цудоўныя бронзавыя званы, пакрытыя ад шаноўнага ўзросту зеленаватым налётам пацінь, як усёй душой адчуеш магутную і непарыўную повязь часу. Міжвольна думаецца: «Колькі пакаленняў ракаўцаў суправаджалі ў жыццё гэтыя званы!» Адразу забываеш, што ледзь не побач — амаль двухмільённы, звыш меры урбанізаваны Мінск.

Жывуць у маленькім Ракаве, як і ў іншых былых нашых мястэчках, дзівосныя чары беларускай даўніны. У гэтым пераконваешся яшчэ і яшчэ раз на любой са старых ракаўскіх вуліц. Тут няма канвеерных мікрараёнаў, уся забудова выключна традыцыйная, сярод якой нідзе не знойдзеш двух аднолькавых дамоў, дзвюх аднастайных сядзіб ці падворкаў. Нічога дзіўнага: людзі, як і даўней, не складаючы рук дбайна рупяцца літаральна ўсё прыстасаваць да сваіх запатрабаванняў і густаў. Кожны ў гэтым сэнсе выступае непаўторным майстрам. Магчымасці дзеля добраўпарадкавання ў ракаўскіх жыхароў, безумоўна, розныя, бо наш грамадскі лад і дасягнуты ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця яшчэ далёка не забяспечваюць роўнасці сваім грамадзянам (зараз пра гэта, нарэшце, адкрыта гаворыцца). Але ўсё роўна кожны гаспадар тут робіць многае, каб роднае котлішча радавала сэрца.

**Мар'ян ВІЖ.**

**(Заканчэнне будзе).**

# ACABAR CON LA IMAGEN DEL ENEMIGO

¿Recuerdan los dos minutos y las semanas de odio en el terrible, pero tan próximo para nosotros, mundo descrito por George Orwell en una de sus novelas? En esencia, toda la vida de mi generación estuvo compenetrada por tal odio. Con Stalin nos enseñaban a denunciar y odiar a los saboteadores y cosmopolitas, con Jruschov y Brézhnev, a los revisionistas de dentro y fuera del país.

¡Qué cómodo era explicarlo todo con los manejos de los enemigos, mientras que nosotros éramos los más talentosos y sabios! El pueblo fuertemente hipnotizado con la imagen del enemigo, a pesar de permanecer en un estado casi esclavo, se sentía el más feliz del mundo.

La nueva mentalidad, proclamada por Mijaíl Gorbachov, que con creciente insistencia subraya la unidad del mundo actual a pesar de todo su carácter contradictorio, va destruyendo evidentemente la imagen del "enemigo externo". ¿Significa ello que por doquier haya que cambiar la polaridad? Se pone claro que la imagen del enemigo aún no se ha borrado del todo de la mentalidad pública. Son muchos los que hasta el momento consideran que los problemas de hoy se deben, como antes, a que el enemigo nos quiere corromper y destruir. Para unos tal enemigo son los imperialista, para otros, los sionistas y masones, para otros más, son todos ellos en conjunto. Nuestro famoso escritor, Víctor Astáfiev, en una ocasión llamó mi atención a la base psicológica de tales criterios. La historia de Rusia, dijo, constituye una cadena tan larga de tragedias horribles, que uno se pregunta sin querer si no es ésta la intención malévola de alguien.

En cuanto a mí, confío en que lograremos superar esta predestinación para volver al cauce de la civilización mundial. Sin embargo, por ahora, las reformas no hacen la vida mejor, sino al revés. El ulterior empeoramiento del nivel de vida amenaza con provocar una ola de desesperación social que llevará a la búsqueda del chivo expiatorio y el restablecimiento en los derechos de la imagen del enemigo. Estos ánimos aspiran a aprovecharlos los funcionarios del aparato arruinados políticamente y corrompidos, que intentan mantenerse a flote e, incluso, volver a las posiciones de fuerza. Creo que todos notamos cómo los activistas de los sindicatos oficiales, en los cuales la clase obrera va perdiendo la confianza, tratan de recuperarla azuzando a los trabajadores contra los cooperativistas. Mañana —si no antes— le llegará el turno a los intelectuales, periodistas y a todos aquellos que conservan el espíritu crítico de su conciencia. Luego, como ya ha ocurrido en nuestra historia, echarán la soga al cuello de la propia clase obrera, devolviendo el país —bajo la bandera de la dictadura del proletariado— a la total dictadura de la burocracia corrompida, la cual se sentirá tranquila ya que la perestroika habrá sido enterrada.

En estas condiciones es mucho lo que depende de la sabiduría del poder central. Está bien claro y justificado [illegible] deseo de mantener consolid[illegible] la sociedad. Asimismo se puede explicar su rechazo de cierta crítica, que a veces carece de tacto y de sentido de la medida. Al mismo tiempo, hay que tomar en cuenta que la crítica de b[illegible] parte de las fuerzas que ha[illegible]ertado la perestroika, y coincide con los ánimos críticos del pueblo. Por ello, si a veces no da en el blanco e, incluso, falla y choca con lo que deberíamos guardar celosamente, estoy seguro de que en la mayoría de los casos esto no se debe a la hostilidad a los ideales de la renovación, sino a lo compleja que es la propia perestroika, a la aún escasa cultura del pluralismo de opiniones, y, por fin, al hecho de que los ritmos de los procesos de renovación dejan atrás obviamente a los de su intelección. Pese a que en alguna ocasión pueda ser necesario recurrir al poder, creo que el retorno al sistema administrativo de ordeno y mando sólo puede reportar el perjuicio a la perestroika. En este sentido no puede dejar de alegrar la actitud del propio Mijaíl Gorbachov, quien no admite ningunos abucheos contra las opiniones contrarias y más de una vez expresó su apego a la democratización y la transparencia.

En cuanto a todos nosotros, cabe recordar las palabras del sabio ruso Nikolái Berdiáev: "Es un error espiritual creer que la fuente del mal está fuera de mí... En realidad, la fuente del mal se encuentra dentro de mí, y yo debo cargar con parte de la culpa y responsabilidad... Acusar de todo a los judíos, masones e intelectuales es una tergiversación tan grande como echarles toda la culpa a la burguesía, la aristocracia y el poder viejo. Es ahí cuando nace el fanatismo malévolo y odioso". Berdiáev lo dijo en 1924, y a partir de entonces esta verdad fue corroborada más de una vez.

Deshaciéndonos de la imagen del enemigo, recuperamos la faz y dignidad humanas.

**Evgueni AMBARTSUMOV.**





*Alumnos de la RFA de la escuela que lleva el nombre de la estudiante antifascista Sophie Scholl fueron durante dos semanas huéspedes de sus coetáneos de la escuela media № 140. Los jóvenes alemanes llegaron a la capital de nuestra República según el programa de intercambio directo para mejorar sus conocimientos del idioma ruso, conocer la vida de los escolares soviéticos, hallarse en sus hogares, conocer más de cerca los problemas de los jóvenes, que en gran parte son parecidos. La enseñanza principal que obtendrán los adolescentes, tanto bielorrusos como los alemanes, es una lección de contactos personales y de entendimiento mutuo.*

*En las fotos: Diálogo. El escolar de Alemania Oeste Andrés OLIVER (a la derecha) y el alumno del décimo grado de Minsk Alexandr OLISHEVSKI. Los escolares alemanes en el jardín de infantes № 298 del barrio Frunze en la lección de música y baile.*

Foto: *V. SHUBA*

## NOTIFICACION

**EL COMITÉ BIELORRUSO DE DEFENSA DE LA PAZ,**
**LA SECCIÓN BIELORRUSA DEL FONDO DE LA PAZ DE LA URSS,**
**LA SOCIEDAD BIELORRUSA "RADZIMA",**
**EL FONDO BIELORRUSO DE CARIDAD Y SALUD,**
**LA SOCIEDAD DE LA CRUZ ROJA DE LA RSS DE BIELORRUSIA,**
**LA DIÓCESIS BIELORRUSA DE LA IGLESIA ORTODOXA RUSA**

en adición al **llamamiento del 3 de julio del año 1989 a los compatriotas de todos los países del mundo** notifican que para la recolección de las donaciones en moneda convertible de organizaciones, movimientos e individuales en el exterior para la ayuda a los habitantes de Bielorrusia, víctimas de la avería de la Central nuclear de Chernóbil, como también para otros fines de beneficencia, se ha abierto una cuenta especial. El dinero, los cheques, letras de cambio y otros documentos de pago se debe enviar a la dirección: cuenta № 705602 de la Sección Bielorrusa del Fondo de la Paz de la URSS en el Banco de Economía Externa de la RSS de Bielorrusia.

*URSS 220004 — Minsk, ul. Zaslavskaya, 10.*

# Para ampliar el intercambio espiritual

La Editorial "Mastatskaya litaratura", fundada en 1972, publica obras de escritores bielorrusos en los idiomas nativo y ruso, libros de crítica literaria, obras traducidas —extranjeras y de los pueblos de la URSS—, obras completas y selecciones literarias, documentales y publicísticas.

N[illegible]estra Editorial fue la p[illegible]a, en la historia de la imprenta bielorrusa, en publicar ediciones facsímiles y reconstruir las primeras obras de los clásicos de la literatura bi[illegible]usa: Maxim Bogdanóvi[illegible] Yanka Kupala, Yakub Kolas, Maxim Tank, Alés Garún.

La tarea principal de nuestra actividad editorial es participar activamente en la vida social y espiritual del país, en la *perestroika*, en la formación del nuevo hombre y la nueva mentalidad, los principios de la democracia y la glásnost. Nos alegra el hecho de que los libros de los escritores bielorrusos, publicados por nuestra Editorial, hoy día se lean en otros países y hayan sido traducidos a numerosos idiomas de los pueblos del mundo. Cabe destacar que los contactos con editoriales y firmas editoras extranjeras se tornan cada vez más estrechos y multilaterales. Citaré, como ejemplo, la última exposición-feria del libro celebrada en Moscú, donde nuestra Editorial firmó 70 contratos, de los cuales 50 son para publicar libros de exportación. De los escritores soviéticos, Vasil Bíkov es uno de los más traducidos. Sus obras han sido editadas en el extranjero más de 80 veces. Hoy día tienen oportunidad de leerlas en su idioma natal los lectores de la comunidad socialista, así como también de España, EE.UU., India, Inglaterra, Italia, Francia, Japón, la RFA, Turquía, Grecia, Dinamarca.

En nuestro mundo contemporáneo, ningún tipo de literatura puede desarrollarse aislado de los demás.

Hoy día, el aislamiento espiritual ha sido excluido por la propia vida. Por eso, es difícil imaginar el funcionamiento de una editorial que no presta gran atención a la lieteratura traducida. En los planes de nuestra Editorial, este tipo de obras ocupa un lugar destacado.

También se otorga gran importancia al fortalecimiento y la ampliación del intercambio espiritual entre los pueblos hermanos. Hace muy poco se publicó la recopilación en 2 tomos de "El relato ruso soviético", que contiene obras de 61 autores. Este año saldrá a luz la "Antología de la poesía georgiana", en 2 tomos. Se edita regularmente la serie "Poesía de los pueblos de la URSS" y "La prosa de los pueblos de la URSS". Un ejemplo de colaboración activa es la publicación conjunta —preparada por las editoriales de Ucrania, Bielorrusia y Moscú— de los libros "El nombre paterno" y "¡Mis respetos, Slavuta!", que hablan de la fraternidad y la amistad de los pueblos soviéticos.

En la actualidad, el lector bielorruso tiene posibilidad de conocer en su idioma las mejores obras de la literatura mundial, tanto clásica como moderna. Nuestra Editorial está preparando la publicación de la biblioteca "Tesoros de la literatura mundial" en 100 tomos, en la cual estarán presentes las mejores obras de la literatura clásica extranjera y de los pueblos de la URSS. En 1989 verán la luz los primeros tomos.

Sin embargo, el voluminoso caudal de obras de la maravillosa literatura extranjera no ha sido aún debidamente asimilado por nuestros traductores —en parte por culpa de la Editorial— cuyo número es insuficiente.

Claro está que hay una salida a esta situación: la labor conjunta entre nuestra Editorial, la organización de escritores, el Ministerio de Cultura y el de Instrucción Pública. Pienso que este noble objetivo vale la pena.

**Serafim ANDREIUK.**

### NUEVA REVISTA JUVENIL

Ha empezado a salir en Minsk, en bielorruso y en ruso, la revista "Krinitsa" (Manantial), nueva edición mensual ilustrada, de orientación socio-política, literaria y artística. Esta, que es la tercera revista destinada a la juventud, se propone familiarizar a su auditorio con la obra de escritores y artistas jóvenes, y sostener un diálogo sincero sobre los problemas que preocupan a la joven generación.

*ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ*

# КРЭДА ПІСЬМЕННІКА СЯРГЕЯ ЗАЛЫГІНА

Было гэта ўсяго толькі гадоў пяць назад. На Дзяржтэлерадыё СССР рыхтавалі перадачу да 70-годдзя пісьменніка Сяргея Залыгіна. Але намечанаму не суджана было збыцца: перадачу адмянілі, і, як прынята было ў час застою, указанне паступіла ананімна, прыкрытае звыклым: «кіраўніцтва адмяняе». На пытанне: чаму? — быў атрыманы туманны і таксама ананімны адказ: «Юбілеі не ўсіх пісьменнікаў адзначае Усесаюзнае радыё».

Зрэшты, зразумець гэты інцыдэнт можна. У кнігах Сяргея Залыгіна на першы погляд не было прамых выпадаў ні супраць кіраўнікоў улады, ні супраць існуючых парадкаў, але ў іх даследаваліся многія сакраментальныя пытанні быцця, адкрыта гаварылася аб становішчы сялянства, аб праблемах дзяржаўнасці. І хаця Залыгіна, які заваяваў пісьменніцкае імя ў перыяд адлігі 60-х гадоў, друкавалі, але элемент замоўчвання заўсёды прысутнічаў у адносінах да яго. У яго творчасці і грамадскай дзейнасці ўжо даўно спела тое, да чаго сёння звяртаецца савецкае грамадства, называючы сваё імкненне да адраджэння перабудовай.

Сёння нанава пераацэньваюцца многія творы Залыгіна. А яго біяграфія выяўляе нарастаючую лінію актыўнасці, нягледзячы на тое, што яму ідзе ўжо 76-ты год. Менавіта ў часы перабудовы пісьменнік стаў галоўным рэдактарам аўтарытэтнага часопіса «Новый мир», праслаўленага ў 60-я гады Аляксандрам Твардоўскім. Залыгін выбраны народным дэпутатам СССР, займае самую актыўную пазіцыю ў духоўным жыцці краіны. А ў сваёй перадвыбарнай прамове ён сказаў: «Я ніколі не прагаласую «за», калі буду некампетэнтным у пытанні, якое абмяркоўваецца».

Зваротам да актуальных праблем і кампетэнтнасцю ў іх разуменні тлумачыцца цяперашняя папулярнасць Сяргея Залыгіна, пісьменніка і парламентарыя. Пытанні сялянства, экалогіі — галоўныя ў яго праграме. Не сёння ён імі заняўся і не таму, каб дагадзіць грамадскім амбіцыям. Залыгін у свой час быў аграномам, інжынерам-гідролагам, навуковым супрацоўнікам, стаў кандыдатам тэхнічных навук. Яшчэ ў пачатку 60-х гадоў ён змагаўся супраць затаплення Заходнесібірскай нізіны, ратуючы багацці нафты і газу на гэтай зямлі; затым выступіў за выратаванне Байкала, супраць перакідкі паўночных рэк на поўдзень. А на З'ездзе народных дэпутатаў у ліку іншых выступаўшых востра паставіў пытанне аб выратаванні Арала, над чым таксама б'ецца не першы год.

У самой біяграфіі Сяргея Залыгіна ёсць рэзкія «павароты». Але заўсёды адна сфера дзейнасці ў яго арганічна працягвае іншую.

«Мы вельмі любім пачынаць усё спачатку, — гаворыць Сяргей Залыгін. — Бывалі ўжо ў нас у краіне такія пераломы, калі пачыналі ўсё спачатку, не ўлічваючы гістарычнага вопыту... А без гістарычнага ж вопыту не можа быць руху наперад».

Кнігі Залыгіна і асэнсоўваюць гэты вопыт. «На Іртышы», «Салёная ўпадзіна», «Камісія» — усё гэта гісторыя сібірскага сялянства ў гады Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, у час калектывізацыі. У перыяд перабудовы Залыгін выступіў з раманам «Пасля буры» (напісаным, зразумела, многа раней), дзе прадстаўлены гады нэпа і лёс першых палітзняволеных у Савецкім Саюзе.

Першыя творы Залыгіна былі апублікаваны ў «Новом мире» Твардоўскім, у канцы 60-х ён цалкам перайшоў на жыццё прафесіянальнага пісьменніка. Цяпер, праз дзесяцігоддзі, ён стаў галоўным рэдактарам часопіса, які выпесціў яго, каб таксама песціць іншых літаратараў.

«Я думаю, больш таго, я перакананы, — гаворыць Залыгін, — што пісьменнік не можа існаваць без ведання роднай літаратуры ва ўсім яе аб'ёме — ад узнікнення да сённяшняга дня. І, вядома, няма пісьменніка без ведання фальклору, без народнай мовы, без яе інтанацый, без яе стылістыкі... Праблема роднай мовы, напэўна, таксама адна з самых галоўных у нацыянальнай самасвядомасці. Наша сённяшняя рэчаіснасць у Савецкім Саюзе пацвярджае гэта. А ўвага да ўласнай культуры — гэта важнае пытанне сёння — паварочваецца і павагай да культуры іншых».

Калі Залыгін прымаў пасаду галоўнага рэдактара «Нового мира», ён выклаў сваю праграму. Мудры чалавек, ён быў супраць паспешнай «ломкі» і пагоні за імгненнай сенсацыяй. «Мэта часопіса — развіццё, паглыбленне тых традыцый, што ў 60-я гады зрабілі яго ўладаром дум, — гаворыць ён, — пра якія рэдакцыя не забывала і пад напорам далейшых абставін, хаця і не заўсёды магла цалкам ад іх вызваліцца».

Сёння «Новый мир» не гоніцца за валам тэм, імёнаў, твораў, некалі то напрамую забароненых, то наўмысна забытых. Менавіта гэта, на мой погляд, робіць яго актуальна сучасным. Смеласць факта бывае недаўгавечнай, глыбіня ж разважанняў накіравана ў будучыню. Менавіта гэта — развіццё аналітычнага мыслення — і стала галоўным крэда «Нового мира». Часопіс супрацьстаіць маскультуры і, я б сказала, масуспрыняццю. Ён звернуты да інтэлектуальнага чытача, але ён жа гэтага чытача і фарміруе. Тыраж часопіса расце. Цяпер ён самы вялікі сярод іншых. Сярод «тоўстых» ён самы «тоўсты»: гаворачы газетнай моваі, мае 272 паласы.

«Самы аператыўны ў нас жанр — крытычныя артыкулы,— заўважае Залыгін.—Але мы не гонімся за штодзённымі падзеямі, тым больш нас не цікавяць сенсацыі. Для нас галоўнае — капітальнасць літаратурна-крытычных работ».

Капітальнасць — гэта таксама крэда «Нового мира». Напрыклад, цяпер многія савецкія часопісы, спаборнічаючы, наперабой друкуюць творы пісьменнікаў рускага замежжа. «Новый мир» у гэтае спаборніцтва не ўступае, хаця і апублікаваў Уладзіміра Набокава, Іосіфа Бродскага, Навума Каржавіна. Аднак паток літаратуры з-за мяжы ў «Новый мир» вялікі. Гэта зразумела: прэстыжна друкавацца ў выданні з самым строгім адборам. І не дзіўна, што Аляксандр Салжаніцын даў права распараджацца публікацыяй сваіх твораў у Савецкім Саюзе менавіта Сяргею Залыгіну і супрацоўніку яго часопіса Вадзіму Барысаву.

Варта дадаць, што «Новый мир» пастаянна пацвярджае сваю назву — яго асновай застаецца адкрыццё новых імёнаў, новых твораў. Але Залыгін не вельмі задаволены становішчам спраў і скардзіцца:

«Пісьменнікі цяпер пішуць мала. Усё больш размаўляюць на пленумах, з'ездах, фракцыях. Некуды «ўваходзяць», адтуль «выходзяць». А ці многа за апошнія два-тры гады выдадзена добрых раманаў? Аб гэтым на пленумах не гавораць. Вядома, прапановы да нас ідуць. Але мы выбіраем толькі тое, што адпавядае высокім мастацкім крытэрыям».

У гэтым таксама натура Залыгіна, яго крэда як літаратара і грамадзяніна.

**Санія ДАЎЛЕКАМАВА.**

## АДМЫСЛОВАЯ КНІЖКА

Кніжка народнай медыцыны — гэта, няма сумнення, бібліяграфічная рэдкасць. Яна існуе ўсяго ў пяці экземплярах. Укладаў і рэдагаваў яе Алесь Белакоз, настаўнік беларускай мовы з Гудзевіч Мастоўскага раёна. Ідэя стварэння гэтага выдання прыйшла да Алеся Мікалаевіча ў час збору матэрыялаў для Гудзевіцкага музея зёлак.

У кніжцы больш чым на 500 машынапісных старонках расказваецца пра народныя метады лячэння хвароб, маюцца рэцэпты. З надрукаванага можна даведацца, якім чынам пазбаўляліся на Беларусі і па-за яе межамі ад усялякіх хвароб. Сабранае настаўнікам не толькі адлюстроўвае культуру нашага люду ды іншых народаў, але мае яшчэ і вялікую медыцынскую каштоўнасць.

— З часам мы збіраемся выпусціць гэтую кніжку ў якім-небудзь выдавецтве,— гаворыць Алесь Мікалаевіч. — Галоўнае, трэба знайсці добрага спонсара.

Сёння з розных куткоў нашай краіны паступае матэрыял у Гудзевіцкі музей зёлак. Рыхтуецца другі том унікальнай кніжкі.

## У ГАСЦЯХ У БУДАЎНІКОЎ

З гастрольнай паездкі ў Арменію, дзе беларускія будаўнікі дапамагаюць ліквідаваць вынікі трагічнага землетрасення, вярнуўся брэсцкі народны ансамбль песні і танца «Сузор'е». У час сустрэч з землякамі, воінамі, жыхарамі Кіравакана і Спітака самадзейныя артысты паказалі фрагменты сваёй новай праграмы «Кірмаш на Палессі», выканалі народныя танцы і песні, фальклорныя замалёўкі.



**У іх абліччы, няспешнасці меркаванняў — сялянская грунтоўнасць. Яно і зразумела: нарадзіліся ж браты Пётр і Васіль Феі ў сялянскай сям'і ў вёсцы Хомічы Калінкавіцкага раёна. У Гомелі яны ўжо вядомыя мастакі-керамісты. А да гэтага была вучоба: Пётр прайшоў школу ў мастака і педагога Валянціна Пакаташкіна ў гомельскім Палацы піянераў, Васіль жа спасцігаў азы мастацтва самастойна, вучачыся ў брата. Пазней закончылі Абрамцаўскае мастацкае вучылішча імя Васняцова ў Маскве.**

**Гады прайшлі ў пошуках свайго творчага почырку. Браты Феі стварылі шэраг работ, якія арганічна дапоўнілі інтэр'еры многіх грамадскіх будынкаў. Дэманстравалі яны свае творы і на шматлікіх выстаўках у Беларусі, у Маскве, а таксама за мяжой — у Польшчы і Італіі.**

**НА ЗДЫМКУ: П. і В. ФЕІ.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

**УКЛАД У ВЫВУЧЭННЕ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ БРАЦКІХ НАРОДАЎ**

# ДАСЛЕДУЕЦЦА ПАЛЕССЕ

Палессе... Край, які з'яўляецца часткай арэала прарадзімы славян, старажытнай этнакантактнай зонай. Да нашага часу тут захаваліся многія рэліктавыя элементы агульнаславянскай і ўсходнеславянскай культуры.

Складаная гісторыя Палесся, экзотыка прыроды і быту яго жыхароў прыцягвала позіркі даследчыкаў яшчэ ў мінулым стагоддзі. У пачатку нашага стагоддзя вывучэннем Палесся займаліся вядомыя беларускія этнографы А. Сержпутоўскі, І. Сербаў, выдатныя польскія вучоныя. Кнігі О. Кольберга, Ч. Пяткевіча, К. Машыньскага змяшчаюць разнастайную характарыстыку заняткаў, звычаяў і абрадаў палешукоў у XIX—пачатку XX стагоддзяў. У наш час этнаграфічнае вывучэнне Палесся працягвалася сумесна з украінскімі вучонымі. У выніку ў 1987—1988 гадах былі выдадзены дзве калектыўныя манаграфіі, падрыхтаваныя навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і Львоўскага аддзялення Інстытута мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі АН УССР. Кніга першая «Грамадскі, сямейны быт і духоўная культура насельніцтва Палесся» выдадзена ў Мінску ў 1987 годзе. Кніга другая «Палессе. Матэрыяльная культура» выйшла ў свет у Кіеве ў канцы 1988 года.

На падставе комплекснага вывучэння экспедыцыйных матэрыялаў, музейных экспанатаў, архіўных дакументаў, літаратурных крыніц у гэтым двухтомніку разглядаюцца розныя формы традыцыйнабытавой культуры насельніцтва рэгіёна. Храналагічна манаграфіі абмежаваны XIX—XX стагоддзямі, аднак даюцца звесткі і больш старажытнага перыяду.

У манаграфіі «Грамадскі, сямейны быт і духоўная культура насельніцтва Палесся» даследаваны аспекты грамадскага жыцця, звычаёвага права, календарныя, сямейныя звычаі і абрады, структура традыцыйнай сям'і, змяненні ў сямейным быце ў савецкі перыяд. Акрамя таго, у кнізе змяшчаецца характарыстыка народных ведаў і вераванняў, народнага мастацтва і вуснапаэтычнай творчасці. Манаграфія «Палессе. Матэрыяльная культура» з'яўляецца першым абагульняючым даследаваннем матэрыяльнай культуры насельніцтва беларуска-ўкраінскага Палесся. Адзначаецца, што тапонім «Палессе» ўпершыню быў упамянуты ў Іпацьеўскім летапісе пад 1273 годам для абазначэння тэрыторыі басейна Прыпяці. Рэгіянальнай палескай тапаніміі і палескім гаворкам прысвечаны спецыяльныя параграфы. У раздзеле «Гаспадарчая дзейнасць» разглядаюцца заняткі палешукоў—земляробства, жывёлагадоўля, рыбалоўства, паляўнічства, пчалярства, лясное збіральніцтва. Вялікі раздзел прысвечаны народным рамёствам: ткацтву, ганчарству, бондарству, цяслярству і інш. Наяўнасць на Палессі залежаў балотных руд і жалезняка абумовілі яшчэ ў старажытнасці распаўсюджанне кавальства. Не абыходзіўся селянін у сваім быце і без плеценых вырабаў з лазы, саломы і рагозу. Пляценне бытуе і сёння, яго традыцыйныя навыкі выкарыстоўваюцца таксама на фабрыках мастацкіх вырабаў. Валяльны промысел уключаў валенне сукна, лямца, выраб шапак-магерак, капелюшоў, валёнак. Катанне валёнак зрэдку існуе і ў наш час. Скураныя промыслы забяспечвалі жыхароў аўчынамі для кажухоў, сырыцай для вупражы, скурай для абутку. Палескія кушняры, рымары, гарбары, шаўцы былі вядомы сваім майстэрствам нават за межамі рэгіёна. Цяпер у палескіх вёсках спарадычна бытуе дамашні промысел—выраб аўчыны і звярковых шкурак. Надзвычай важную ролю ў быце насельніцтва Палесся адыгрывалі лясныя і лесахімічныя промыслы, чаму спрыялі прыродныя ўмовы гэтага краю.

У раздзеле «Шляхі зносін і сродкі перасоўвання» даецца этнаграфічная характарыстыка воднага і гужавога транспарту, прыводзяцца даныя аб гандлёвых сувязях з краінамі Заходняй Еўропы праз сістэмы Агінскага і Дняпроўска-Бугскага каналаў. На рэках Палесся бытавалі старажытныя плыты, чаўны, паромы, з другой паловы XIX стагоддзя таксама і дашчатыя лодкі. У канцы XVIII—пачатку XIX стагоддзяў распаўсюдзіліся больш танажныя драўляныя судны: барка, берліна, лыжва, шкут. З сярэдзіны XIX стагоддзя з'явіліся параходы, у канцы стагоддзя ўзнікла буксіруемая баржа. Паром, баржа і лодка ўжываюцца і сёння. Да ўсталявання Савецкай улады на рэках Палесся існавала бурлацтва для перасоўвання суднаў і плытоў супраць цячэння. Багата ілюстраваны раздзел «Паселішчы» змяшчае падраздзелы «Сядзіба», «Жыллё», «Інтэр'ер», «Гаспадарчыя збудаванні», «Грамадскія і культавыя збудаванні». Аўтары падкрэсліваюць, што гістарычная забудова ў значнай ступені ўяўляе сабой культурную і архітэктурную каштоўнасць. У раздзелах «Адзенне», «Вышыўка», «Ежа і начынне» на вялікім фактычным матэрыяле характарызуецца жаночы і мужчынскі народны касцюм, даследуюцца тэхніка і матывы вышывання, арганізацыя харчавання, прыводзіцца класіфікацыя посуду і начыння.

Выдадзены двухтомнік па этнаграфіі беларуска-ўкраінскага Палесся з'яўляецца каштоўным укладам у вывучэнне культурнай спадчыны брацкіх народаў.

**Ніна БУРАКОЎСКАЯ.**

ЛЮБЛЮ бываць у Навагрудку. У яго наваколлі нібы адчуваецца подых гісторыі. Дарога паміж ім і Лідай, якой звычайна даводзіцца сюды ехаць, і ёсць той старажытны шлях, што злучаў дзве сталіцы Вялікага княства Літоўскага, першую — наш Навагрудак, і апошнюю—Вільню. Крыху ўяўлення—і можна адчуць, як скачуць загнаныя коні герояў Міцкевічавай паэмы «Гражына». Аднак можна абысціся і без фантазіі, бо шаша-асфальтоўка не дужа каб ёй спрыяла. Паўзірайцеся, праязджаючы апошнія кіламетры перад горадам: пранатрапіў я на артыкул пра апошні пераклад «Пана Тадэвуша» на беларускую мову. Гэта было цалкам сугучна з маім настроем. Бо назва «Навагрудак» заўсёды спалучаецца з імёнамі Міндоўга і Міцкевіча, вобразамі Замкавай гары і экспазіцыяй музея паэта.

Аўтарам артыкула быў Фларыян Няўважны—прафесар Варшаўскага універсітэта, даўні перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову. «Шэдэўр Адама Міцкевіча амаль з моманту з'яўлення на свет,—пісаў Ф. Няўважны,—жыва цікавіў беларускіх паэтаў, якія імкмай двух найбуйнейшых польскіх турыстычных агенцтваў «Орбіс» і «Громада». Самі з сябе яны жартуюць: нават калі палякі едуць у Рыо-дэ-Жанейра, іхні шлях цяпер усё адно праляжа цераз Навагрудак, ужо яны знойдуць такую магчымасць. Як бачым, працы ў музеі толькі пачаты, а Навагрудак ужо стаў месцам сапраўднага паломніцтва прыхільнікаў асобы А. Міцкевіча.

Таго ж разу мне давялося стаць сведкам яшчэ адной цікавай сустрэчы. Калі мы з панам М. Мірановічам наблізіліся да канторы, сюды падрулілі два «Паланезы» і

## *НАВАГРУДСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ*

# НОВЫЯ ПАКАЗАЛЬНІКІ

вабоч, крыху на адлегласці, заціснутае ў абдымкі валатоўскімі камлямі стогадовых таполяў, мкнецца ў бок Навагрудка рэчышча брукаванага гасцінца—так, таго самага, што, падначальваючыся рэльефу, пакручастай стужкай упаўзе паміж пагоркаў на рыначны пляц.

Але гэта будзе пазней. Зараз жа ўваччу прамільгне дарожны паказальнік і ўразіць сваёй нязвыкласцю. Здзіўлены, азірнешся, але—куды там! Няўжо на дарогах Навагрудчыны родная мова ўжываецца ўжо дзеля пазначэння найменняў беларускіх вёсак? Так і ёсць. Наступны паказальнік, якога чакаем, прытуліўшыся да шыбы, пацвярджае гэта. «Уселюб». Як прыгожа, па-свойску, па-роднаму гэта гучыць! Міжволі прагаворваем пра сябе ўбачаную назву. А далей па дарозе—яшчэ і яшчэ.

Потым, ужо ў Навагрудку, сябры з раённай газеты апавядалі, як увесну праязджалі праз Навагрудчыну беластоцкія пісьменнікі з Польшчы. І таксама тым жа шляхам. Беларускія паказальнікі на дарозе заўважылі першымі польскія літаратары, штурхаюць С. Яновіча, беларускага празаіка, глядзі, маўляў, пане Яне, вось яна—твая Беларусь. А той гэтак прагнуў убачыць моўных адзнак беларускасці. Бо на Беласточчыне жа БГКТ—Беларускае грамадска-культурнае таварыства пакуль што марна змагаецца за двухмоўныя паказальнікі на дарогах.

Думаю, што прыемна было гасцям убачыць і новыя беларускія шыльды ў самім Навагрудку—«Дзіцячы свет» і іншыя. Узгадваюцца ў сувязі з гэтым і тыя літаральна пяць-дзесяць хвілін, праведзеныя мною ў кабінеце намесніка старшыні Навагрудскага райвыканкома П. Микульчыка. Хацелася тады пачуць думку афіцыйнай асобы наконт паслядоўнага вяртання ў наша жыццё беларускай мовы. «Паказальнікі—гэта толькі пачатак,—сказаў Пётр Васільевіч.—У бліжэйшай будучыні заменім на раёне ўсе шыльды. Пачнём са школ, культурна-асветных устаноў. Ужо заказалі шыльды ў Смаргоні на ліцейна-механічным заводзе. Людзі, адчуўшы змены ў адносінах да роднай мовы, душой пагарнуліся да гэтага. На апошняй сесіі раённага Савета народных дэпутатаў, апроч дакладчыка, шмат хто прамаўляў таксама па-беларуску».

Як, аказваецца, усё проста! Шыльды, паказальнікі ўсё адно ж час ад часу мяняць трэба! А зрабіць новыя па-беларуску—якога ж гэта трэба дазволу? Зямля тутэйшая—беларуская дае такое права. Было б толькі жаданне.

Не ведаю, ці выпадкова так выйшла, але, набыўшы перад адыходам навагрудскага аўтобуса стос свежай прэсы, у часопісе «Польшча» нуліся гэты напісаны па-польску гімн у гонар навагрудскай зямлі, дзе прайшлі дзіцячыя і юначыя гады польскага паэта, перакласці на родную беларускую мову». Апошнім, хто выканаў гэта, стаў Язэп Семяжон—адзін з найстарэйшых беларускіх перакладчыкаў з замежных моў.

У адным са сваіх інтэрв'ю Я. Семяжон сказаў наступнае: «Нядаўна я скончыў сваю шматгадовую сізіфаву працу, каб прымусіць пана Тадэвуша загаварыць, нарэшце, па-беларуску, загаварыць сучаснай мовай, без паланізмаў і празмерных дыялектызмаў, загаварыць у тым асяроддзі, дзе нарадзіўся, вырас і па волі бога, а ч[illegible]м і без яе, распачаў св[illegible] дзейнасць».

У часопісе змешчаны чатыры ілюстрацыі да кнігі, выкананыя беларускім мастаком Васілём Шаранговічам. Як адзначана, манера, у якой зроблены малюнкі, [illegible]кая да стылю работ, што [illegible]лежаць ураджэнцу Беларусі Міхалу Андрыёлі і лічацца класічным прыкладам мастацкага афармлення паэмы Адама Міцкевіча. Дарэчы сказаць, наш мастак за сваю працу быў адзначаны званнем заслужанага дзеяча культуры ПНР. А само альбомнае выданне «Пана Тадэвуша» высока ацэнена і на Беларусі, і ў Польшчы.

Да апошніх, найбольш цікавых змен, што адбыліся ў Навагрудку, я б залічыў і такую, як «Будзімэкс». Гэтае слова, напісанае лацінскім шрыфтам на шыбе дома ў старым квартале горада, адразу прыцягвае ўвагу. Бо «Будзімэкс»—вядомая польская будаўнічая фірма. Мне ўжо было вядома, што палякі ўзяліся рэстаўрыраваць сядзібу Міцкевічаў у Навагрудку, у якой дагэтуль ужо размяшчаўся музей А. Міцкевіча.

Кіраўніка работ пана Мікалая Мірановіча давялося спаткаць на будаўнічай пляцоўцы, у катлаване, дзе будзе змураваны склеп, які існаваў калісьці. Па задуме дойлідаў, тут размесцяцца буфет і раздзявальня, і адсюль экскурсанты змогуць трапіць у будынак самога музея. Пан Мірановіч выбіраецца на паверхню, але пагаманіць з ім мы не паспяваем. З'яўляецца купка польскіх турыстаў, якія просяць сцісла расказаць пра рэстаўрацыйныя работы. Потым ужо мой субяседнік прызнаецца, што такіх экскурсій здараецца штодзень па некалькі. Давялося нават галоўную браму зачыніць: праца ёсць праца, ды і паказваць яшчэ пакуль няма чаго. Але ад землякоў, якія прыехалі на Беларусь, усё адно няма адбою, ім цікава нават папросту пабыць на тым месцы, дзе гадаваўся Адам Міцкевіч.

На старой навагрудскай плошчы сёння часта спыняюцца аўтобусы з кідкай рэкла-«Фіят» з польскімі рэгістрацыйнымі нумарамі. Гэта прыехалі кіраўнікі «Будзімэкса» з Беластока і бліжэйшай сядзібы фірмы ў нашай краіне—з Вільнюса...

У цеснай канторы накурана, яблыку няма дзе ўпасці, столькі сабралася люду. Адбываецца дзелавая гутарка. З нашага боку ў ёй бяруць удзел намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкома М. Шаўцоў і загадчык аддзела культуры Навагрудскага гарвыканкома В. Лаўрашчук, з польскага—кіраўнік будоўлі інжынер Р. Дубоўскі з Вільнюса і кіраўнік экспартнага бюро Беластоцкага будаўнічага камбіната інжынер Л. Малішэўскі. Мэта сустрэчы—узгадніць бягучыя пытанні, што датычаць працы польскіх майстроў на сядзібе.

А пытанняў шмат. Будаўнічая практыка ў Польшчы мае крыху іншы парадак. У нас трэба, каб працы фінансаваў банк, прадастаўляць туды бягучы каштарысна-фінансавы разлік. Польскім таварышам цяжка было зразумець, чаму ў нас не страхуецца ўся будоўля. Удакладнілі, як быць з часовай прапіскай рабочых. Іх пакуль чатырнаццаць, будзе неўзабаве дваццаць пяць. Але самым складаным пытаннем, безумоўна, застанецца становішча з будаўнічымі матэрыяламі. Замест цэглы маркі «150», як высвятляецца, можна разлічваць толькі на немарозатрывалую «сотку». Тыдзень давялося чакаць з Ваўкавыска цэментавоз. Узнікла цяжкасць з драўнінай дуба. Па дамоўленасці вырабы з яе будуць выконваць у Польшчы і прысылаць назад. Але якраз незадоўга перад гэтым сталі дзейнічаць новыя таможныя правілы, якія забараняюць вываз будаўнічых матэрыялаў. Карацей, пытанняў, самых нечаканых, узнікае на будоўлі шмат, таму абодва бакі дамовіліся пра рэгулярныя кантакты для вырашэння ўсіх складанасцей.

— «Будзімэкс» — сярод шасцёркі лепшых будаўнічых фірм свету,—кажа Аляксандр Кароль, які выконвае абавязкі галоўнага архітэктара горада.—Яе майстры працуюць у 37 краінах свету. Мы спадзяёмся, што якасць работ будзе добрай і сядзіба Міцкевіча набудзе дакладна такі выгляд, які мела некалі, пры жыцці паэта.

У той жа дзень Навагрудак наведаў начальнік Беларускага ўпраўлення Дзяржкамінтурыста СССР В. Іваноў. Гутарка была аб будаўніцтве ў горадзе гасцініцы «Інтурыст» на 150 месцаў з рэстаранам пры ёй. Палякі папярэдне згадзіліся дапамагчы ў будаўніцтве. Карацей кажучы, невялікі Навагрудак неўзабаве можа стаць адным з буйных турыстычных гарадоў Беларусі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

## ФЕСТЫВАЛЬ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ





Палац культуры прафсаюзаў пры ўдзеле Мінскай епархіі Рускай праваслаўнай царквы наладзіў I Мінскі фестываль духоўнай музыкі. Ён быў прысвечаны 400-годдзю ўстанаўлення патрыяршаства на Русі.

У час адкрыцця на сцэну выйшлі мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі патрыяршы экзарх Беларусі Філарэт, намеснік міністра культуры БССР У. Рылатка, які зазначыў, што ўсіх прысутных у зале паяднала раданае прадчуванне сустрэчы з высокай духоўнай музыкай, духоўнай культурай, якая ёсць скарб сусветнай цывілізацыі. Было адзначана, што Архірэйскі сабор Рускай праваслаўнай царквы, які нядаўна прайшоў у Маскве, высока ацаніў дзейнасць праваслаўнай царквы Беларусі, павысіў яе статус, устанавіўшы новую форму царкоўнага праўлення — экзархат Беларусі. Мітрапаліт Філарэт падкрэсліў, што зараз як ніколі наша грамадства мае патрэбу ў духоўных асновах і царква робіць свой сціплы ўклад у духоўнае абнаўленне грамадства. Уладыка гаварыў таксама пра знамянальнасць 500-годдзя Ф. Скарыны, пра дзейнасць беларускага першадрукара, пра значэнне выдадзенай ім «Бібліі».

Удзельнікам сходу накіроўвалі з залы пытанні. Большасць запісак была адрасавана мітрапаліту Філарэту. У сваіх адказах ён гаварыў пра дапамогу царквы тым, хто пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, расказаў пра будаўніцтва і адкрыццё ў Хойніках новага храма, пра ўдзел веруючых у руху міласэрнасці, пра перспектывы ўжытку беларускай мовы ў царкоўных рытуалах.

У першым фестывальным канцэрце ўдзельнічалі ансамбль салістаў Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР, Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы, мітрапалічы хор Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора і мужчынскі хор выдавецкага аддзела Маскоўскага патрыярхата.

**НА ЗДЫМКАХ: мітрапаліт ФІЛАРЭТ і намеснік міністра культуры БССР У. РЫЛАТКА; хор Свята-Духава кафедральнага сабора пад кіраўніцтвам рэгента Л. РАКІЦКАГА.**

# У ГАБРАВА З КАНЦЭРТАМ

Канцэртную праграму з беларускіх і балгарскіх песень і танцаў падрыхтавалі для сяброў з Габрава артысты народнага харэаграфічнага ансамбля «Рунь» Магілёўскага вытворчага аб'яднання шаўковых тканін і вакальна-інструментальны ансамбль гарадскога Дома культуры.

Ансамбль «Рунь» яшчэ малады — яму сем гадоў, але калектыў ужо ўдастоены звання народнага. Яго артысты ўжо паспелі пабываць з канцэртамі ў многіх гарадах і вёсках Беларусі, а гэтым летам выступалі на міжнароднай фальклорнай сустрэчы ў польскім горадзе Влоцлавеку.

Абмен канцэртамі самадзейных артыстаў стаў традыцыйным для Габрава і Магілёва.







**Паўзабытае ў Беларусі кавальскае мастацтва ўзяліся адрадзіць члены кааператыва «Дэкор» з раённага цэнтра Глыбокае Віцебскай вобласці.**

**...Крыху больш за паўгода назад дзесяць моцных хлопцаў — слесары, токары, зваршчыкі — пераабсталявалі пустое памяшканне склада гатовай прадукцыі льнозавода ў кузню. Набылі неабходнае абсталяванне і пачалі работу і... вучобу. Вучыліся рабіць з металу ажурныя рашоткі і лесвіцы, мудрагелістыя люстры і бра, прыгожыя ружы — вяршыня кавальскага майстэрства.**

**Настаўнікам стаў сам старшыня кааператыва Аляксандр Дубіна — вялікі энтузіяст старажытнага рамяства. Кавальская справа даўно захапіла яго: збіраў матэрыялы аб ім, вывучаў работы старых майстроў, карпатліва спасцігаў прамудрасці прафесіі і многага ў ёй дасягнуў. З усесаюзнага фестывалю «Кавалі, прырода, Айчына» вярнуўся з узнагародай: зроблены ім і яго калегамі ліхтар быў удастоены Дыплома 3 ступені.**

**Вырабы кааператыва «Дэкор» падабаюцца і мясцовым жыхарам. Попыт на іх усё расце. Але інтарэс кааператараў не толькі ў гэтым. Яны мараць узвесці побач з кузняй будынак, у якім размясціўся б музей кавальскага мастацтва. Экспанатаў для яго сабрана ўжо нямала. Спадзяюцца зацікавіць сваёй справай школьнікаў і арганізаваць абучэнне падлеткаў прафесіі, каб не згасла яна, каб усё больш майстравых людзей тварылі прыгажосць на роднай зямлі. А яшчэ — выношваюць у «Дэкоры» ідэю правядзення рэспубліканскага свята кавальскага майстэрства з конкурсным каваннем.**

**НА ЗДЫМКАХ:** кааператыў кавалёў «Дэкор»; каваная люстра работы глыбоцкіх майстроў; старшыня кааператыва «Дэкор» Аляксандр **ДУБІНА.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# КАМЕННЫ ЛЕТАПІС

Сярод выпускаў савецкай пошты—марак і мастацкіх канвертаў—ёсць нямала прысвечаных розным старажытным архітэктурным пабудовам нашай краіны.

Будаўніцтва крамлёў і крэпасцей, вартавых вежаў і замкаў—адна з вельмі цікавых старонак гісторыі дойлідства нашай Радзімы.

Каму не знаёмы Маскоўскі Крэмль—сімвал славы Расіі. Пасля Кулікоўскай бітвы князь Дзмітрый Данской загадаў будаваць замест драўляных белакаменныя сцены і вежы Крамля. Яны не захаваліся да нашых дзён. Сённяшнія цагляныя сцены і вежы пабудаваны ў канцы XV і пачатку XVI стагоддзяў. План Крамля, у форме трохкутніка, паўтарыў абрысы белакаменнага XIV стагоддзя. Працягласць сцен—больш двух кіламетраў, яны агароджваюць плошчу амаль 30 гектараў.

Маскоўскаму Крамлю прысвечана нямала марак і канвертаў. Гэта маркі з серыі «800 год Масквы», «Сталіцы саюзных рэспублік», «Музеі СССР». Маскоўскаму Крамлю прысвечаны таксама паштовы блок з серыі «Гісторыка-архітэктурныя помнікі Расіі». Гэтая серыя расказвае таксама пра Пскоўскі крэмль, Смаленскую крэпасць, пра крамлі ў Ноўгарадзе і Каломне.

Яшчэ адна серыя прадстаўляе гісторыка-архітэктурныя помнікі Украіны. Маркі прысвечаны стар[illegible]тнаму Львову, будынкам [illegible] І стагоддзя ў Чарнігаве, Коўнараўскаму корпусу Кіева-Пячэрскай лаўры. Паш-




товыя мініяцюры знаёмяць нас з крэпасцю Камянец-Падольска, архітэктурнымі помнікамі Прыбалтыкі і Самарканда.

На тэрыторыі Беларусі ў розныя стагоддзі было пабудавана шмат замкаў. Нямногія з іх «удастоены гонару» быць адлюстраванымі на паштовых выпусках. Нясвіжскі замак—помнік архітэктуры XVI—XVIII стагоддзяў быў закладзены князем Радзівілам Сіроткам у 1583 годзе, сёння ў замку—санаторый «Нясвіж». На паштовых канвертах Нясвіжскі замак-санаторый адлюстраваны двойчы—у 1970 і 1972 гадах. На адным з канвертаў паказаны каменны мост, высокі земляны вал, роў, напоўнены вадой, уязная брама. На другім канверце—галоўны корпус санаторыя і дазорная вежа.

Адлюстравана на паштовым канверце Чачэрская ратуша—архітэктурны помнік XVIII стагоддзя (Гомельская вобласць), узведзеная ў стылі класіцызму.

Некалькі канвертаў прысвяціла пошта гістарычным помнікам архітэктуры Гомеля. На іх паказаны Гомельскі палац, помнік архітэктуры класіцызму, закладзены ў 1785 годзе генерал-фельдмаршалам П. Румянцавым. (Сёння ў гэтым будынку размешчаны абласны краязнаўчы музей і Палац піянераў і школьнікаў).

На адным з паштовых канвертаў паказаны будынак гомельскага планетарыя. Гэта былы Петрапаўлаўскі сабор, помнік архітэктуры класіцызму. Ён быў пабудаваны ў 1809—1819 гадах архітэктарам Д. Кларкам.

У 1797—1825 гадах у горадзе Лідзе быў пабудаваны Іосіфаўскі касцёл піяраў. Сёння ў гэтым будынку Лідскі планетарый. Яму і прысвечаны паштовы канверт 1972 года.

На многіх іншых канвертах адлюстраваны каменны летапіс нашай Радзімы—гістарычныя будынкі Віцебска, Гродна, Магілёва, Гомеля, Кобрына, Брэста, Мінска.

**Леў КОЛАСАЎ.**

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# ПРЫГОЖАЯ ВОСЕНЬ

Пасля доўгіх, сумных, імгл[illegible] і халодных дажджо[illegible]бы на развітанне, засвяціла мяккае сонейка. Пад яго святлом пашырэлі прыбраныя палі і сенажаці.

З унукам ідзём у лес. Яшчэ [illegible]далёк празрыстасцю зас[illegible]іся пералескі. Мы спын[illegible]ся на ўзлеску. Паміж дрэў заблішчэлі ўзоры карункаў-павуціння. Раптам наш позірк затрымаўся на прыгожа апранутай рабіне: зеляніны не было, толькі буйныя чырвоныя гронкі густа ахінулі ўсю крону. Лагодны асенні ветрык далікатна кранаў іх, і чырвань пералівалася на сонцы.

— Глядзі, — кажу ўнуку,— якая прыгожая восень. Умей толькі ўбачыць. Ён змоўчаў, але адчуваю, што радуецца багаццю роднай прыроды.

Потым ішлі па лясной дарожцы. І справа, і злева густыя зараснікі верасу ў буйнай квецені стварылі непаўторны абрус асенняй прыгажосці. Па ім без спеху з нізкім задаволеным гудзеннем то там, то сям поўзалі флегматычныя чмялі. Паміж іх час ад часу ўзляталі і зноў садзіліся на квецень шустрыя восы з клапатлівымі высокімі нотамі.

Далей дарожка нібы скончылася. Але я прыгледзеўся і заўважыў, што ў розныя бакі ад яе адыходзяць тры мала прыкметныя сцяжынкі. Яны вялі ў яловы гушчар. Унук сумеўся і стаў.

— Якая цемра,— ціха прамовіў ён.

Я зразумеў яго: узнікла загадкавая таямнічасць. Але іду наперад, ён следам за дзедам. Відаць, цікаўнасць прымусіла малога пераадолець страх. «А што там?»— хацелася даведацца яму.

Сонца прыкметна схілілася з поўдня, і мы выйшлі з лесу на шырокі разлог калгаснага поля. Раннія ружовыя ўсходы жыта зіхацелі ў промнях адыходзячага святла. Над намі плылі ключы пералётных птушак — гусей і жураўоў. Яны рухаліся ў сінім небе роўна, спакойна, і толькі час ад часу да нас даляталі журботныя галасы: крум-кра...

— Што яны кажуць? — пытае мой юны спадарожнік.

— Дакладна не ведаю. Мне чуецца, што яны кажуць: бывайце, не сумуйце. Мы вернемся. Сустракайце...

— Відаць, сапраўды гэта,— падумаўшы, адказаў ён.

— Ведаеш, як мы былі малымі, каб зблытаць іх ключ, крычалі: «Мяшай баба кашу! Мяшай баба кашу!..

— І што, яны парушалі ключ?

— Давай паспрабуем цяпер,— прапаную.

— Не трэба. Няхай шчасліва ляцяць,—адказаў унук.

**Яўген КРАМКО.**

# ПАДАРУНАК МАЙСТРА

Ткацтва — традыцыйны народны промысел у нашай рэспубліцы. На жаль, праходзяць гады, і ўсё менш застаецца людзей, якія валодаюць тайнай чароўнага ўзору. Маладых не вельмі вабіць перспектыва правесці ўсё жыццё ля ручнога ткацкага станка. Асобныя народныя промыслы паспяхова ўваходзяць у наша жыццё і вялікім патокам сувеніраў выліваюцца на прылаўкі магазінаў з варот фабрык мастацкіх вырабаў.

Але так ужо здараецца, што найбольш старое, унікальнае мастацтва чамусьці не сустракае падтрымкі ў вытворчасці. Вось і тлеюць, нібыта маленькія вугольчыкі некалі вялікага кастра, традыцыі нашых продкаў, якія беражліва падтрымліваюцца асобнымі людзьмі.

Ёсць такая майстрыха і ў Гродзенскім раёне. Жыве Ядвіга Райская ў мястэчку Адэльск. Нягледзячы на даволі паважны ўзрост—76 гадоў, з-пад яе ткацкага станка выходзяць двухасноўныя, двухслойныя тканіны.

Гэтыя вырабы не маюць адваротнага боку. На абодвух баках палатна вытканы маляўнічы арнамент, прычым можна аддзяліць адзін слой ад другога. Паўтарыць работу майстрыхі на машыне немагчыма.

Некалі гэты від ткацтва быў шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Гродзеншчыны. У многіх музеях суседняй Польшчы сабраны унікальныя калекцыі двухасноўных, двухслойных тканін У нашай рэспубліцы, на жаль, іх можна рэдка сустрэць у музейных залах.

Ядвіга Аўгусцінаўна вырашыла перадаць два свае вырабы абласному гісторыка-краязнаўчаму музею. Яны зоймуць ганаровае месца ў экспазіцыі, прысвечанай народнай творчасці.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854 Зак. 1300